© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

14 - 20 сакавіка 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№11 (99)

У НАСТУПНЫМ, СОТЫМ НУМАРЫ "РГ", ПАДПІСЧЫКАЎ ЧАКАЕ СЮРПРЫЗ.

*Аддзел сюрпрызаў.*

## ДА ЗАКАНЧЭННЯ ПАДПІСКІ – ЛІЧАНЫЯ ДНІ !!!



**Падпіска на другі квартал завяршаецца 25 сакавіка. Дашліце да 4 красавіка ксера- (факс-, фота-) копію свайго падпіснога абанемента на квартал (або паўгоддзе) і вы станеце ўдзельнікам розыгрышу тэлевізара "Верас", які чакае свайго лёсу.**

**Кошт падпіскі на квартал — 24 тыс. рублёў.**

Чакайце!

## Дзесяць год без права дазваніцца

*АСТРАВЕЦ. Менавіта такую магчымасць, напэўна, і не падазраваючы, прадаставілі сувязісты мясцовага вузла электрасувязі на чале з начальнікам Міхаілам Хіневічам для жыхаркі вёскі Градаўшчызна Ганны Жукоўскай. Расказвае яна сама.*

— Прайшло дзесяць год, як мы з мужам напісалі заяву, аднеслі начальніку вузла сувязі Міхаілу Хіневічу, які паабяцаў, што неўзабаве яна будзе задаволена, вось толькі пабудуем у вёсцы Палушы мясцовую АТС. Чакаць на самой справе доўга не давялося, бо пабудавалі тую станцыю хутка. Але тэлефон нам ніхто не паставіў, нават у вёску ніводзін сувязіст не завітаў. Тэлефаную Хіневічу, а той адказвае, што тэлефон павінен быў быць устаноўлены на мінулым тыдні, паабяцаў разабрацца. Пакуль ён разбіраўся, надышла зіма. Зноў тэлефаную.— Бачыце, зіма. Цяпер няма магчымасці. Вясной паставім,— адказвае ён.

Прыйшла вясна. Але і тут адгаворка знайшлася, якая зводзілася да таго, што будуць, маўляў, сувязісты ў Градаўшчызне пракладваць кабель восенню і заадно тэлефон правядуць.

Было гэта тры гады таму назад. Прыйшла восень, але абяцанка, нягледзячы, што той кабель пракладвалі ў 10 метрах ад нашага дома, так абяцанкай і засталася.

Паехала ў Астравец. Размаўляю з Хіневічам, а ён гаворыць, што ўжо пасля нядзелі ўсё будзе "о'кэй". Так прайшлі выхадныя дні. Ніхто не прыязджае. Тэлефаную, адказваюць:

— Мароз! Няма магчымасці. Чакайце наступнай вясны.

Вясна. Перад выбарамі прэзідэнта ў кабінеце Хіневіча. Прашу, а ў адказ:

— Ну, цяпер да выбараў не будзем пачынаць, а пасля абавязкова паставім.

Так сувязісты пад яго кіраўніцтвам "займаюцца" устаноўкай да сённяшняга дня.

І вось у 1996 у "раёнцы" з'яўляецца заметка Хіневіча аб тым, што паставіць тэлефон не праблема. Вырашыў заняцца гэтым пытаннем мой муж, але зноў усё паўтарылася, як і раней. Паставім тады і тады. Нарэшце, "блеснул лучик надежды в тёмном царстве". У верасні Хіневіч сказаў:

— Прыязджайце ў панядзелак сваёй машынай, дам сувязістаў і прабема знікне.

Як сказаў, так мы і зрабілі. У панядзелак муж паехаў на вузел сувязі, забраў двух сувязістаў і даставіў іх на АТС у Палушы. Пахадзілі "спяцы", пагаварылі і заяўляюць, што могуць паставіць толькі праз блакіратар.

*Заканчэнне на 2-й ст.*

Чарговыя заняткі з юнымі карэспандэнтамі пройдуць у рэдакцыі "РГ" у панядзелак (17. 03) а 16-й гадзіне.

**Даведкі па тэл. 69667.**

## Адным абзацам

**П**а звестках з Вашынгтона, увядзенне ў карыстанне ў ЗША новых 50-доларавых банкнот, першапачаткова намечанае на вясну, затрымліваецца на некалькі месяцаў. Новыя купюры павінны мець адрозныя рысы, якія дапамогуць людзям са слабым зрокам беспамылкова распазнаваць іх сярод іншых грашовых знакаў. У ЗША плануецца пачаць таксама выпуск новых купюр вартасцю ў 20, 10, 5 і 1 долар з палепшанай абаронай. Купюры, якія выпускаліся дагэтуль, будуць мець хаджэнне разам з новымі на працягу некалькіх гадоў, пакуль іх канчаткова не выведуць з абарачэння.

**Г**енеральны спонсар Беларускай федэрацыі хакея - арэнднае прадпрыемства "Крыніца" распрацоўвае новы сорт піва "Нагана", якое ўпершыню можна будзе прадэгуставаць на зімовых Алімпійскіх гульнях 1998 года ў Японіі. У якасці дэбютантаў у спаборніцтвах такога ўзроўню прыме ўдзел беларуская хакейная зборная. Прадукцыя беларускіх бровараў таксама ўпершыню трапіць у краіну Узыходзячага Сонца.

**У** афіцыйных беларускіх сродках масавай інфармацыі, як і раней, не друкуецца дасланае прэзідэнту Лукашэнку яшчэ 3 сакавіка заключэнне еўрапейскага Саюза па становішчы ў Беларусі пасля лістападаўскага рэферэндуму. У канстатуючай частцы дакумента падкрэсліваецца, што рэферэндум праведзены з грубейшымі парушэннямі заканадаўчых працэдур, а гэта ставіць пад сумненні яго вынікі. Рэкамендацыі Савета Міністраў краін-членаў Еўрапейскага Саюза заключаюцца ў наступным: аднаўленне дыялога з прадстаўнікамі Вярхоўнага Савета 13-га склікання, неадкладны пачатак эканамічных рэформаў, дэмакратызацыя грамадства. У сувязі з тым, што ЕС не схільны спадзявацца на сумленнае слова прэзідэнта Лукашэнкі, маецца на ўвазе вызначыць тэрміны канкрэтных рэформаў, пастаянна кантраляваць іх рэалізацыю з боку Еўрасаюза.

**З** 6 сакавіка, калі пачаўся чарговы візіт А.Лукашэнкі ў Маскву, у Беларусі пачалі дзейнічаць новыя правілы правядзення мітынгаў, сходаў, дэманстрацый і пікетаванняў, якія моцна нагадваюць існаваўшыя ў 80-е гады ў час ваеннага становішча ў Польшчы. Як для арганізатараў, так і для ўдзельнікаў недазволеных акцый прадугледжваецца адміністрацыйны арышт ад 3 да 15 сутак, але не крымінальнае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі. Устанаўліваемыя штрафы - даволі адчувальныя (да 300 мінімальных зарплат).

**З**агад прэзідэнта аб пастаянным зніжэнні тэмпаў інфляцыі ў краіне не выконваецца, ружовыя прагнозы прэзідэнцкіх памочнікаў не ўкараняюцца ў жыццё - у студзені цэны ўзраслі на 13,3 працэнта, у тым ліку на харчовыя тавары - на 16,2 працэнта, у лютым рост цэн склаў арыенціровачна 9 працэнтаў, у тым ліку на паслугі - да 14 працэнтаў. Магчыма, адказваць прыйдзецца міністру статыстыкі, якога прэзідэнт Беларусі папярэдзіў аб жорсткім пакаранні за прадастаўленне недакладных дадзеных.

**Д**зень Канстытуцыі ў Беларусі адзначыць апазіцыя і яе прыхільнікі. Не ўсе паспелі забыцца на календары з чырвонай датай 15 красавіка, як не паспелі забыцца на тое, што Канстытуцыя, па якой жыла краіна, застаецца агульнапрызнанай у сусветнай супольнасці, за выключэннем, бадай, толькі Расіі.

**П**асля аб'яднання выканаўчых структур Смаргоншчыны Дом творчасці юных стаў багацейшы на 70 гурткоў. Дзейнасць большасці з агульных 163 накіравана на адраджэнне народнага мастацтва.

**К**іраўнік гуртка ашмянскага цэнтральнага Дома дзіцячай і юнацкай творчасці Ганна Шчэмер прымае віншаванніі і падарункі. Яна перамагла ў абласным конкурсе прафесійнага майстэрства "Пазашкольнік года". Пад яе кіраўніцтвам дзесяцігадовыя дзяўчынкі вяжуць на прутках не горш за дарослых.

**М**аладзечна сустрэне гасцей і ўдзельнікаў чацвертага рэспубліканскага фестывалю "Мападзечанская сакавіца-97" 14-16 сакавіка. У праграме - лепшыя спектаклі беларускіх тэатральных калектываў. На жаль, маскоўскія зоркі, якіх чакалі, на фестываль ізноў не прыедуць - фінансавыя цяжкасці.

## Навіны

### Як купіць аўтобус

*ВІЛЕЙКА. Рашэннем гарвыканкома прадпрыемствы розных формаў уласнасці павінны плаціць мясцовы збор на ўтрыманне грамадскага транспарту. Памер збору вызначаны ў 2% ад фонду зарплаты.*

Вілейчане, як і раней, будуць аплачваць праезд у гарадскіх аўтобусах. Талончыкі ніхто не адмяняў. Грошы пойдуць на набыццё запчастак, новых аўтобусаў. Карацей, павялічыўся падатак. А вось ці стануць аўтобусы хадзіць лепш - пакажа час.

*МЯДЗЕЛ. Тут яшчэ летась улады вызначыліся ў падобным - 5% ад прыбытку ідзе на набыццё аўтобусаў і іх утрыманне.*

За год набылі 3 аўтобусы. І як лічыць адміністрацыя аўтапарка, іншага шляху па абнаўленні транспартнай гаспадаркі проста не існуе.

*Аддзел інфармацыі.*

### Засталіся пні

*АСТРАВЕЦ. Мясцовы лясгас праводзіў аўкцыён па продажы лесу на пні. На таргі было выстаўлена 4,3 тысячы кубаметраў дзелавой драўніны.*

Чатыры ўдзельнікі - ААТ "Буддэталь" з Вілейкі, АТ "Маладзечналес", а таксама мясцовы камбінат будаўнічых матэрыялаў і цэх шырспажыву лясгаса - выкупілі 2,4 тысячы кубаметраў драўніны. Без набытку, на жаль, застаўся цэх шырспажыву. Тлумачыцца падобнае тым, что кошт драўніны перавысіў першапачатковы ў два разы і таму, зыходзячы з фактычнага кошту выпускаемай прадукцыі цэху набываць па такой цане драўніну было проста нявыгадна. Самымі багатымі аказаліся вілейчане, а таму выкупілі 890 кубаметраў. На 680 і 785 кубаметраў адпаведна раскашэліліся маладзечанцы і астраўчане.

Выгада ад падобнага аўкцыёна была і лясгасу, і раёну. Дарэчы, казна апошняга папоўнілася 39 мільёнамі рублёў. Але на гэтым лесаводы не спыняюцца і ўжо ў красавіку ў планах наступны аўкцыён.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Надежды юношей питают

*АШМЯНЫ. Тут, як і ўсюды, вострая праблема з атрыманнем моладдзю жылля. 50 чалавек жадаюць будавацца ў межах горада, 83 - у раёне.*

Таму ўсе яны стаяць у чарзе на атрыманне дзяржаўнага крэдыту. 97 чалавек маюць асабістыя зберажэнні. Крэдыт, на які спадзяюцца, дазволіць адразу набыць кватэру ці дом. 35 сем'яў уступілі ў маладзёжны жыллёвы кааператыў. Дом плануецца закладваць сёлета ў квартале Будаўнікоў.

Летась 10 чалавек атрымалі субсідыі на заканчэнне будаўніцтва, 2 - на набыццё жылля. А ўсяго было выдзелена за год на субсідыі 535 мільёнаў рублёў.

*Аддзел інфармацыі.*

### "...і ярчэй гарыць новая Зорка"

*У ліпені 1995 года амерыканскія астраномы Алан Хейл і Томас Боп, незалежна адзін ад аднаго, заўважылі ў сузор'і Стральца маленькую кропку святла, якая адсутнічала на зорных картах,- новую камету.*

Яна ў 250 разоў ярчэй, чым была ў свой апошні прылёт камета Галея на той жа адлегласці ад Зямлі. У канцы сакавіка-пачатку красавіка яна будзе не толькі самым яркім, але і самым вялікім аб'ектам начнога неба. Некаторыя астраномы называюць яе Віфлеемскай зоркай, бо менавіта гэтую камету назіралі ў год нараджэння Ісуса Хрыста.

*Аддзел інфармацыі.*

Версіі АНОНС



У рубрыцы "Версіі" у наступным нумары вы даведаецеся аб тым, якую тайну хавае Вілейскае вадасховішча.

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



Сведчаць дакументы

# ХРОНІКА ЗЛАЧЫНСТВАЎ 1939-1941

*Працяг. Пачатак у №№28-34,37,39-41,43-51 за 1996 г.,№№1-4,6-10 за 1997 г.*

## Спіс асуджаных у Асобай Нарадзе на 25-е снежня 1940 г. па УНКУС Вілейскай вобласці.

1503. Шалкоўскі Іван Вікенцьевіч– 29. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1504. Шракала Пётр Іосіфавіч– 26. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1505. Шыпко Зігмунд Антонавіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1506. Шалкевіч Іван Мікалаевіч– 26. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1507. Шарэцкі Канстанцін Кірылавіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1508. Шаліхскі Іосіф Раманавіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
1509. Шыдло Геня Мендзелеўна– 19. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1510. Шапок Ганна Дзмітрыеўна– 13. 7. 40 г.–8 год ВТЛ– ст. Поцьма
1511. Шостак Іосіф Уладзіслававіч– 23. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Поцьма
1512. Штэйн Абрам Іцкелевіч– 27. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1513. Прозвішча выкраслена
1514. Экман Лейба Самуілавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1515. Эпштэйн Вольф Лявонавіч– 17. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1516. Эрдман Юзаф Францішкавіч- 19.8.40г. -3 гады ВТЛ- ст. Котлас
1517. Эрыхман Абрам Янкелевіч- 5.8.40г.- 3 гады ВТЛ- г.Архангельск
1518. Эфрон Іосіф Давыдавіч- 27.6.40г.- 5 год ВТЛ- г.Архангельск
1519. Эльбаўм Мортка Давідавіч- 27.6.40г.- 5 год ВТЛ- г.Архангельск
1520. Прозвішча выкраслена
1521. Юранец Іван Іванавіч- 26.6.40г.- 5 год ВТЛ- ст. Карабас
1522. Юхневіч Блажы Восіпавіч- 23.7.40г.-3 гады ВТЛ- ст. Карабас
1523. Юрэвіч Іосіф Іосіфавіч- 9.7.40 г.- 8 год ВТЛ- ст. Поцьма
1524. Юрш Баляслаў Баляслававіч- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
1525. Юхневіч Альфонс Міхайлавіч- 23.7.40г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
1526. Юзафовіч Пётр Баляслававіч- 19.7.40г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
1527. Юхневіч Альфонс Казіміравіч- 27.7.40г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
1528. Юрковіч Аляксандр Восіпавіч- 23.7.40г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
1529. Юцкевіч Віктар Катуянавіч- 13.7.40г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
1530. Юралевіч Фама Эдвардавіч- 13.7.40г.- 8 год ВТЛ- ст. Котлас
1531. Юркоўскі Аляксандр Станісл.- 20.7.40г.- 8 год ВТЛ- г. Архангельск
1532. Юркевіч Уладзімір Вікенцьевіч- 21.8.40г.- 8 год ВТЛ- ст. Котлас
1533. Юранава Яніна Канстанцінаўна- 10.8.40г.- 3 гады ВТЛ- ст. Поцьма
1534. Юрковіч Іван Баляслававіч- 19.8.40г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
1535. Юхневіч Вітольд Іванавіч- 21.8.40г.- 8 год ВТЛ- ст. Котлас
1536. Янкун Іван Ігнатавіч- 21.8.40г.- 3 гады ВТЛ- ст. Безымянка
1537. Якубцэвіч Вера Станісл.- 19.8.40г.- 3 гады ВТЛ- ст. Поцьма
1538. Ярыноўскі Гаўрыла Ігнатавіч- 17.8.40г.- 5 год ВТЛ- ст. Поцьма
1539. Янцэўскі Эдвард Іванавіч- 19.8.40г. - год ВТЛ- ст. Котлас
1540. Яновіч Браніслаў Юзафавіч- 17.8.40г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
1541. Яес Шыман Іосіфавіч- 10.8.40г.- 3 гады ВТЛ- ст. Безымянка
1542. Янкоўскі Ян Янавіч- 17.8.40г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
1543. Янкоўскі Вікенцій Юльянавіч- 26.7.40г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
1544. Яворская Яўгенія Юльянаўна- 26.8.40г.- 5 год ВТЛ- ст. Поцьма
1545. Яцыновіч Уладзімір Аляксеевіч- 6.7.40г.- 3 гады ВТЛ- г. Архангельск
1546. Яворскі Станіслаў Уладзіміравіч - 27.7.40г. - 3 год. ВТЛ - ст. Колас
1547. Янінскі Абрам Фадзеевіч - 6.8.40г. - 5 год ВТЛ-г. Архангельск
1548. Якубоўскі Іосіф Давідавіч - 11.8.40 г. - 3 гады ВТЛ - ст. Котлас
1549. Ялінскі Казімір Уладзіміравіч - 30.7.40 г. - 3 гады ВТЛ-ст. Енісей
1550. Ярашонак Ванда Войцехаўна- 17.8.40г. - 3 гады ВТЛ - ст. Поцьма
1551. Ярашонак Загон Станіслававіч - 17.8.40г. - 3 гады ВТЛ - ст; Поцьма
1552. Яцына Іван Восіпавіч - 26.8.40г.-5 год - ВТЛ - ст. Поцьма
1553. Яновіч Нарцыс Венядзіктавіч - 10.8.40г. - 8 год ВТЛ - ст. Безымянка
1554. Якімовіч Вікенцій Францавіч - 21.8.40 г. - 8 год ВТЛ - ст. Котлас
1555. Яневіч Браніслаў Пятровіч - 27.7.40 г. - 8 год ВТЛ - ст. Котлас
1556. Якель Раман Іванавіч - 30.7.40г. - 8 год ВТЛ - ст. Енісей
1557. Янушонак Пётр Пятровіч - 19.7.40г. - 8 год ВТЛ - ст. Котлас
1558. Янушкевіч Вацлав Іванавіч - 27.7.40г. - 8 год ВТЛ - ст. Котлас
1559. Явір Хажан Гіршавіч - 9.7.40г. - 5 год ВТЛ - ст. Котлас
1560. Янхелевіч Гесаль Гесалевіч - 27.7.40 г. - 5 год ВТЛ
1561. Янулін Юльян Іванавіч - 2.7.40г. - 5 год ВТЛ - ст. Котлас
1562. Янкуноў-Перстальь Вікенцій Станіслававіч - 13.7.40г. - 5 год ВТЛ - ст. Котлас
1563. Яшулянец Эмілія Уладзіславаўна - 30.7.40г. - 3 гады ВТЛ - ст. Марыінск
1564. Якубель Станіслаў Лявонавіч - 23.7.40 - 5 год ВТЛ - ст. Котлас
1565. Яцына Уладзіслаў Баляслававіч - 23.7.40 г. - 8 год ВТЛ - ст. Котлас
1566. Якуб'ёнак Сабіна Анатольеўна - 23.7.40г. - 3 гады ВТЛ - ст. Поцьма
1567. Якубель Лявон Адамавіч - 9.7.40г.-8 год ВТЛ - ст. Поцьма
1568. Яхімовіч Бярнард Бенядзіктавіч - 23.7.40г. - 5 год ВТЛ - ст. Котлас
1569. Янкоўскі Вітольд Паўлавіч - 13.7.40г. - 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
1570. Яркоўскі Генрых Валяр'янавіч - 27.7.40г. - 8 год ВТЛ - ст. Архангельск
1571. Яцэвіч Адам Ігнатавіч - 13.7.40 г. - 8 год ВТЛ - ст. Котлас
1572. Ядвісёнчак Ганна Валянцінаўна- 2.7.40г. - 3 гады ВТЛ - ст. Поцьма
1573. Якімоўская Зося Нікадзімаўна- 27.6.40 г. - 3 гады ВТЛ - ст. Карабас
1574. Януліс Іван Іосіфавіч - 29.6.40г. - 3 гады ВТЛ - ст. Котлас
1575. Януковіч Баляслаў Вікенцьевіч - 27.6.40г. - 5 год ВТЛ - ст. Котлас
1576. Янкелевіч Гесаль Гесалевіч - 27.6.40г. - 5 год ВТЛ - г. Арангельск
1577. Яхес Шалом Лейбавіч - 20.6.40г. - 5 год ВТЛ - г. Архангельск
1578. Янгеловіч Генрых Іосіфавіч - 26.6.40 - 5 год ВТЛ - г. Архангельск
1579. Якубовіч Сельман Вульфавіч - 27.6.40г. - 5 год ВТЛ - г. Архангельск
1580. Яшэмскі Баляслаў Міхайлавіч - 2.7.40г. - 5 год ВТЛ - ст. Котлас

**Нам. пракурора Вілейскай вобласці па спец. справах** **(АЙЗЕНШТАДТ)**

1582. Чыльбінскі Юзаф Янавіч - 23.7.40 г. - 3 гады ВТЛ - Севжелдорлаг
1583. Ягела Казімір Пятровіч - 2.7.40 г. - 8 год ВТЛ - ст. Котлас
1584. Салагуб Пётр Фёдаравіч - 27.6.40 г. - 8 год ВТЛ - ст. Котлас
1585. Саковіч Пётр Мікітавіч - 27.6.40г. - 8 год ВТЛ - ст. Котлас
1586. Савіцкі Канстанцін Ежавіч - 27.6.40г. - 8 год ВТЛ - ст. Котлас
1587. Цыпко Адам Іванавіч - 25.6.40 г. - 8 год ВТЛ - ст. Карабас
1588. Янкоўскі Віктар Антонавіч - 29.6.40г. - 8 год ВТЛ - ст. Карабас
1589. Янукевіч Сцяпан Паўлавіч - 29.6.40г. - 8 год ВТЛ - ст. Котлас
1590. Янчас Войцех Фаміч - 29.6.40 г. - 8 год - ст. Котлас
1591. Шаюк Міхаіл Фёдаравіч - 2.7.40г. - 8 год ВТЛ - ст. Котлас
1592. Сінкевіч Андрэй Аляксандравіч- 27.6.40г. 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
1593. Ціхоцкі Пётр Іванавіч- 27.6.40г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
1594. Розенфельд Абрам Шмулевіч- 27.6.40г. 3 гады ВТЛ- г.Архангельск
1595. Рынг Натан Самуілавіч- 27.6.40г.- 3 гады ВТЛ- г.Архангельск
1596. Скурковіч Веніцыян Ісакавіч- 27.6.40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
1597. Сарокіна Тэкла Ісцінаўна- 26.6.40г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
1598. Шафран Іда Абрамаўна- 26.6.40г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
1599. Шапялінскі Хаім Ізраілевіч- 27.6.40г.-3 гады ВТЛ- г. Архангельск
1600. Тумаоўскі Венядзікт Станіс.- 27.6.40г.- 5 гадоў ВТЛ- ст. Котлас
1601. Чайкоўская Вікторыя Пятроўна- 27.6.40г.- 5 гадоў ВТЛ- ст. Карабас
1602. Харытон Аляксей Антонавіч- 29.6.40г.- 5 год ВТЛ- ст. Котлас
1603. Ушацкі Лявон Казіміравіч- 27.6.40г.- 5 год ВТЛ- г.Архангельск

**Нам. пракурора Вілейскай вобласці па спец.справах** **(АЙЗЕНШТАДТ)**

*Працяг будзе.*

Культура ў горадзе

# Экспанаты, якія ніхто не бачыць

***МАЛАДЗЕЧНА. Мінскі абласны краязнаўчы музей мае больш за 40 тысяч экспанатаў асноўных фондаў. У стацыянары, на жаль, экспануецца ўсяго каля 2%, разам з выставамі і лекцыямі працэнт гэты сягае да 5.***

І разам з тым, у музеі лічаць, што неўзабаве змогуць экспанаваць да 30%. Частку экспанатаў выстаўяць іншыя музеі, нямецкія сябры з Эслінгена, прыватнікі. Хаця сённяшняе становішча музея (арэнда памяшканняў у цэнтральнай гарадской бібліятэцы, будынак па Лібава-Роменскай) падстаў для аптымізму не дае. Пры тым, што сабраныя тут прадметы ткацтва, народнага адзення адзначаюць у Акадэміі навук, Акадэміі мастацтваў, музей часам не ў стане прымаць новыя экспанаты - няма месца. Грошы на яго ўтрыманне (увогуле, на культуру) пастаянна ўразаюць.

Стаўленне да культуры, як відаць, традыцыйнае. Параўнальна нядаўна Мінск не даў дазволу на перадачу музею будынка, што належаў "Аксаміту" (былому камбінату надомнай працы). У цяперашні час ідзе рэканструкцыя памяшкання, дзе музей, будзем спадзявацца, зможа размясціцца больш утульна.

*Язэп СЕМЯНОВІЧ.*

Крымінал, здарэнні

# Калі не ўкрадуць, то згнаяць

***АШМЯНЫ. Летась зарэгістравана 65 крадзяжоў дзяржаўнай і грамадскай маёмасці, 71 - асабістай. Гэты год не стане выключэннем. Бо часцяком крадуць самі вартаўнікі.***

Вартаўнік малочна-таварнай фермы "Кемяны" калгаса "Прыгранічны" Іосіф Зянковіч разам з непаўналетнім сынам сцягнулі з фермы рухавік халадзільнай установы і тэлефонны апарат. Здабычу перапраўлі праз мяжу. І ўжо ў Літве абмянялі яе на 60 літраў гарэлкі. Трое злодзеяў са свінагадоўчага комплексу калгаса "Імя Леніна" у адзін дзень укралі свінаматку вагой 75 кг і кабана, які важыў 91 кг. Дапамагаў ім у гэтым дзяжурны вартаўнік. Як потым высветлілася, на гэтым самым комплексе за 3 месяцы недалічыліся 10 свіней.

Ёсць і такія ахоўнікі, якія самі не крадуць, а даюць гэта рабіць іншым. Напрыклад, вартаўнік магазіна "Прамысловыя тавары", што ў Жупранах, ноччу пайшоў дамоў адпачываць. Тады і сцягнулі з магазіна тавару на 40 мільёнаў рублёў.

Пракуратурай, міліцыяй выкарыстоўваецца практыка пакарання не толькі радавых рабочых, але і кіраўнікоў. У лютым прад'яўлены іск начальніку аўтатранспартнага ўчастка калгаса "Прыгранічны" аб спагнанні з яго 851 тысячы рублёў за незабяспячэнне захавання транспарту.

Бывае, самі кіраўнікі больш наносяць страт свайму прадпрыемству, установе, чым тыя ж вартаўнікі. Галоўны бухгалтар камбікормавага завода па абыякавасці нанесла страты прадпрыемству на суму 241 мільён рублёў. Адміністрацыя калгаса імя Надзеі Крупскай пакінула зімаваць на полі лён. Старшыні калгаса, галоўнаму аграному, загадчыку ўчастка прад'яўлены іск на суму 20 мільёнаў рублёў.

*Васіль САВІЦКІ.*

## Работа за інтарэс

***ВІЛЕЙКА. 26 мільёнаў рублёў, магчыма, прыйдзецца выплачваць апаратару і інжынеру кацельні, што ў Ілы.***

Напярэдадні ацяпляльнага сезона выбухнуў паравы кацёл, які знаходзіцца на балансе сельгастэхнікума. Тэхнікум няспраўнасць ухіліў, затраціўшы на гэта 26 мільёнаў рублёў. І паколькі там лічаць, што прычына аварыі - безадказнасць у выкананні службовых абавязкаў, то навучальная ўстанова вырашыла спагнаць грошы з небаракаў.

*Аддзел інфармацыі.*

## Спрытныя мёртвыя душы

***ВАЛОЖЫН. Нейкі Трамакоўскі, не заплаціўшы, па фальшывых дакументах вывез з ільнозавода 5 тон шпагату.***

Дзе ты, Трамакоўскі, ён жа Іваноў, Сідараў? Прозвішча ёсць, а чалавека няма. Цікава, навошта яму спецыфічны тавар і ў такой колькасці?

*Аддзел інфармацыі.*

## "Не магу больш цярпець"

***ВІЛЕЙКА. 16-гадовая школьніца звярнулася ў міліцыю з заявай на роднага бацьку.***

Сям'я прыехала з-за мяжы. Менавіта там засталася радня. Але на новым месцы расіяне хутка прыжыліся. Паўтара года таму памерла маці. Старэйшая з сясцёр падалася ў Маладзечна, у вучылішча. Гаспадарка - карова, свінні, куры - засталася на меншай. Бацька, жывёлавод, мала чым дапамагаў. У асноўным, піў і... гвалціў дачку. Куды было ісці скардзіцца дзяўчынцы-падлетку, калі побач ніводнай роднай душы? У міліцыі яна расплакалася: "Я не магу больш цярпець". Бацьку-гвалтаўніка арыштавалі. Вядзецца следства.

*Аддзел інфармацыі.*

## Не хадзіце пешшу ў Літву

***АСТРАВЕЦ. Нядаўна пагранічнікі ў лесе непадалёк ад вёскі Кямелішкі заўважылі аўтамабіль "Опель-Рэкорд". Уладальніка давялося чакаць.***

Неўзабаве з'явіўся гаспадар з сябрам. Аказалася, што яны расіяне, а нялёгкая закінула іх у наш край, каб тыя хоць неяк зарабілі на пражыццё. І таму вымушаны былі ісці пешшу ў Літву за таварам, каб потым яго прадаць у сябе на радзіме. Тавар, як потым падлічылі, "пацягнуў" на ўсе 800 долараў ЗША.

Пагранічнікі даставілі затрыманых у камендатуру, а пракуратура ўзбудзіла справу. Магчыма, "камерсанты" неўзабаве атрымаюць добры "ўрок" на тэму, як правільна, не парушаючы закон, апынуцца ў суседняй дзяржаве.

*Маркел АНДРЭЙЧЫК.*

# Дзесяць год...

*Заканчэнне. Пачатак на 1-й ст.*

Муж згадзіўся, бо за мяжу нам тэлефанаваць патрэбы няма, а хуткую дапамогу выклікаць і з такога можна будзе. Толькі дабавілі, што трэба ехаць за чымсьці ў Астравец. Паехалі. Па дарозе сустракаюць майстра вузла сувязі Станіслава Саўко, а ён забараняе так ставіць тэлефон. Адвёз муж сувязістаў у Астравец, патраціўшы грошы на бензін, і з пустымі рукамі вярнуўся дамоў.

Шчыра кажучы, каментарыі дзеяннем начальніка вузла электрасувязі, думаецца, павінны даць тыя людзі, якім ён падначалены. Хацелася б, вядома, пачуць і адказ кліенту: "Колькі год яшчэ гэты чалавек будзе працаваць на гэтай пасадзе?" Уражвае іншае. Сёння ў вёсцы Градаўшчызна няма ніводнага тэлефона, акрамя школы і магазіна. І не дай Бог, ноччу здарыцца бяда, дазваніцца будзе немагчыма.. Ды і што гэта за стаўленне да людзей.

**P.S. Калі рыхтаваўся гэты матэрыял, Ганна Жукоўская атрымала ліст, дзе сказана: "установить телефон нет технической возможности из-за отсутствия свободных пар в кабеле. Телефонизация населённого пункта будет произведена на примерно в 1999 году." Чакайце.**

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*



Паэзія

# РАСКВАТАРУЙСЯ У МАЁЙ ДУШЫ

*Калі віхура сённяшняга дня*
*І тых адкіне, з кім жыла дагэтуль,*
*І застануся, як калісь, адна,*
*На паўдарогі да абранай мэты—*
*Раскватаруйся у маёй душы,*
*Займі сабой усе яе пакоі,*
*Пачуцце адзіноты заглушы,*
*Дапамажы забыцца пра такое.*

***Гэта ўрывак з аднаго з вершаў нядаўна памерлай паэткі Ганны Новік, чыё жыццё, звязанае з Вілейкай і Вілейшчынай, было прыкладам для нашых землякоў. Нарадзіўшыся перад самым пачаткам першай сусветнай вайны, Ганна Новік зведала лёс парабчанкі, падпольшчыцы ў часы панавання дэфензівы, вайну з фашызмам, выклікі ў "органы" пасля вайны...***

І ўсё сваё жыццё яна перш за ўсё была паэтам. Перад самай смерцю пабачыў свет яе другі сціплы зборнічак вершаў "Мая Вілейшчына". Зусім нядаўна гэта кніга была перавыдадзеная і сёння яе можна набыць у кіёсках "Белсаюздруку" Вілейкі. Разгарнуўшы старонкі зборніка, можна сапраўды раскватаравацца ў душы паэта, прайсціся вёрстамі яе нялёгкага жыцця.

У мінулым часе пра Ганну Новік гаварыць цяжка. Яшчэ, здаецца, учора яе нетаропкую постаць можна было бачыць на вуліцах Вілейкі. Да самага апошняга дня, нават прыкаваная цяжкай хваробай да ложка, яна змагалася за жыццё, за права пісаць вершы:

*Спыніся, восень. Пачакай хвіліну,*
*Не абрывай апошняе лісцё,*
*Дазволь успомніць мне сябе дзяўчынай,*
*Адтэрмінуй для кветак небыццё.*

Паэт працягвае сваё жыццё ў вершах. Пакуль яго слова патрэбна чытачу, небыццё не настане.

*Мікола ГАЙДУК.*

